Яноўскі, А. А. Матэрыялы пасяджэння навуковага круглага стала з нагоды 150-годдзя адмены прыгоннага права ў Расійскай імперыі, наладжанага кафедрамі гісторыі Расіі і гісторыі Беларусі новага і навейшага часу БДУ (Мінск, 22 лютага 2011 г.) / А. А. Яноўскі, А. Г. Каханоўскі // Российские и славянские исследования: науч. сб. Вып. 6 / редкол.: А. П. Сальков, О. А. Яновский (отв. редакторы) [и др.]. — Минск БГУ, 2011. — С. 361 – 379

# МАТЭРЫЯЛЫ ПАСЯДЖЭННЯ НАВУКОВАГА КРУГЛАГА СТАЛА З НАГОДЫ 150-годдзя АДМЕНЫ ПРЫГОННАГА ПРАВА Ў РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ, НАЛАДЖАНАГА КАФЕДРАМІ ГІСТОРЫІ РАСІІ І ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ НОВАГА І НАВЕЙШАГА ЧАСУ БДУ (Мінск, 22 лютага 2011 г.)

Гістарычны факультэт БДУ ў апошнія гады ўзнаўляе вядомую традыцыю правядзення навуковых круглых сталоў, не адмаўляючы практыку арганізацыі маштабных навуковых канферэнцый. Між тым магчымасць аператыўна, па-сучаснаму крэатыўна адгукнуцца на гістарычную падзею, на юбілейную дату ў творчай біяграфіі нашых пяпярэднікаў, дэталізаваць і падагульніць некаторыя творчыя напрацоўкі — гэта патрабуе не столькі вялікіх матэрыяльна-фінансавых выдаткаў, а яднання калег-аднадумцаў. Таму круглы стол і з'яўляецца такой эфектыўнай у навуковым сэнсе формай «зверкі даследчыцкіх гадзіннікаў».

Рэдкалегія «РіСД» з гэтага нумара бярэ за практыку друкаваць у разгорнутым выглядзе найбольш цікавыя і грунтоўныя вынікі творчага жыцця факультэта. Так, у гэтым выпуску мы даём дастаткова поўную стэнаграму пасяджэння навуковага круглага стала, які адбыўся 22 лютага 2011 г. на гістфаку БДУ і быў арганізаваны яго дзвюма кафедрамі і прадстаўнікамі нашай рэдкалегіі. Ён прысвячаўся 150-годдзю адмены прыгонніцтва ў Расійскай імперыі. На запрашэнне арганізатараў адгукнулася амаль 30 даследчыкаў розных аспектаў шматграннай праблемы «Вялікіх рэформаў» з вядучых універсітэтаў і Інстытута гісторыі НАН Беларусі.

**Ход пасяджэння.** *Пасяджэнне навуковага круглага стала адкрыў сваім уступным словам дэкан гістарычнага факультэта БДУ **С. М. Ходзін**. Ён звярнуў увагу прысутных на* «...асаблівую актуальнасць даследавання абставін падрыхтоўкі і правядзення "Вялікіх рэформаў" беларускімі даследчыкамі, якія павінны валодаць і агульнарасійскім "матэрыялам", і распрацоўваць пытанні эканамічных, сацыяльных, культурных пераўтварэнняў якраз на беларускай тэрыторыі імперыі. І бачыць іх спецыфіку, адрозненні не толькі ад прапісаных царскімі рэфарматарамі палажэнняў, але ад дакладных рэалій беларускай парэформеннай рэчаіснасці».

*На правах сустаршынь пасяджэння загадчыкі кафедр гісторыі Расіі і гісторыі Беларусі новага і навейшага часу прафесар А. А. Яноўскі і дацэнт А. Г. Каханоўскі таксама зрабілі невялікія ўступныя паведамленні. Так, **А. А. Яноўскі** засяродзіў увагу на тым, што* «...сёння прадгісторыя, акалічнасці прыняцця ўрадавых рашэнняў і асабліва наступствы Вялікіх рэформаў 1861 г. успрымаюцца востра ў кантэксце сучаснага імкнення розных краін да лібералізацыі важнейшых сфер жыццядзейнасці, дэмакратыі, мадэрнізацыі і інш. Зразумела, як гэтыя важнейшыя катэгорыі цывілізацыйнага развіцця чалавецтва зусім па-рознаму, нават працілегла ацэньваліся і ацэньваюцца рознымі пакаленнямі гісторыкаў.

Вось і цяпер з нагоды 150-годдзя адмены прыгонніцтва ў Расіі збіраюцца канферэнцыі, друкуюцца кнігі і артыкулы. І нельга «дакапацца» да адназначных і грунтоўных высноў і ацэнак сутнасных вынікаў таго рашэння, што было прынята Аляксандрам Вызваліцелем. Ужо даўно навуку не асабліва цікавіць дакладнасць, відавочны першасны і перспектыўны вынік ліквідавання прыгоннага ярма для мільёнаў расійскіх сялян. Навука цяпер усё больш занятая пошукам глабальнага, лёсавызначальнага ў перспектывах стагоддзяў. Тым больш,

што на справе займаецца знаходжаннем прамых адказаў там, у далечыні мінулага, у зробленым і не зробленым продкамі, на пытанні і выклікі сённяшняга дня. А ён, гэты дзень, мала каго задавальняе, бо ставіць перад цяперашнімі насельнікамі Планеты як бы зусім сакраментальныя пытанні аб перспектывах будучага дня. І калі знайсці выйсце далёка не заўсёды ўдаецца за кошт уласных фізічных і разумовых намаганняў (напрыклад, на тым жа мадэрнізацыйным і дэмакратычным шляху), то прычыны бачацца дзесьці ў туманным далёка...

І гісторыкі-выкладчыкі БДУ не засталіся ўбаку ад гэтай тэмы даследаванняў. Не хацелася б «всуе» зноў звяртацца да навуковай спадчыны У. І. Пічэты, але і ў дадзеным выпадку без яго імені не абысціся. І тут, у вывучэнні рэформы 1861 г. з усімі яе важнейшымі акалічнасцямі ён быў адным з самых грунтоўных даследчыкаў. Аб яго зацікаўленасці Рэформай сведчыць хаця б тое, што яшчэ ў 1910 г. ён узяўся за навуковае рэдагаванне ўсім нам вядомай велізарнай (6 тамоў) калектыўнай працы «Великая реформа: Русское общество и крестьянский вопрос в прошлом и настоящем» і напісанне для яе асобных артыкулаў. Ужо ў савецкі час сфарміравалася ў БДУ і Акадэміі навук цэлая навуковая кагорта даследчыкаў-аграрыяў. І мне прыемна згадаць, што мой навуковы кіраўнік і настаўнік па жыцці Анатоль Іосіфавіч Кажушкоў, якому ў гэтыя лютаўскія дні споўнілася б 90 гадоў, таксама належаў да даследчыкаў пытання аб «развіцці капіталізму ў сельскай гаспадарцы» Беларусі пасля адмены прыгонніцтва».

*Са свайго боку **А. Г. Каханоўскі** адзначыў, што круглы стол прысвечаны знамянальнай падзеі, якая наклала значны адбітак на далейшую сацыяльную трансфармацыю беларускага грамадства.* «Адмена прыгоннага права апошнім часам не так часта становіцца прадметам разгляду і ўвагі айчынных гісторыкаў. Спецыяльныя даследаванні М. Б. Фрыдман і М. М. Улашчыка выйшлі з друку ў канцы 1950-х — сярэдзіне 1960-х гг. Настаў час новага ўсебаковага вывучэння сялянскай рэформы 1861 г. з улікам сучасный крыніцазнаўчай асновы і метадалагічных падыходаў, вызначэння спецыфічных рыс рэалізацыі рэформы на тэрыторыі беларускіх губерняў. У апошнія дзесяцігоддзі тэма адмены прыгоннага права на тэрыторыі Беларусі амаль не гучала на рознага ўзроўню навуковых форумах. Зварот вышэйшага кіраўніцтва Расійскай імперыі да беларускіх і літоўскіх памешчыкаў у сувязі з пачаткам падрыхтоўкі рэформы быў абумоўлены большай уцягнутасцю рэгіёна ў рыначныя адносіны, перасцярогай урада ў сувязі з магчымым аб'яднаннем сялянскага руху з польскім нацыянальна-вызваленчым, зацікаўленасцю мясцовых памешчыкаў у больш ільготных для сябе ўмовах правядзення рэформы.

У ходзе папярэдняга абмеркавання памешчыкі беларускіх губерняў выявілі рознае ўяўленне аб паслярэформенным ўладкаванні сваіх гаспадарак, але былі амаль аднадушнымі ў адмаўленні прапановы ўрада аб абавязковым продажы сялянству той ці іншай долі апрацоўваемай імі зямлі па фіксаваных дзяржавай цэнах. Яны звязвалі такі падыход з расійскім парадкам ураўняльнага землекарыстання і лічылі яго не адпавядаючым эканамічным запатрабаванням свайго, на іх погляд, больш развітага рэгіёна, дзе панавала падворнае землекарыстанне. Больш таго, памешчыкі беларускіх і літоўскіх губерняў падкрэслівалі сваё перакананне аб адасобленасці гэтага рэгіёна ад унутранай часткі Расіі. Вызваленне сялян ад прыгону, правядзенне далейшых аграрных пераўтварэнняў, нягледзячы на сваю пэўную абмежаванасць, адкрыла шлях для капіталістычнай мадэрнізацыі вёскі. Адчувальным фактарам, які паўплываў на іх змест і накірунак, стала актывізацыя нацыянальна-вызваленчага руху ў пачатку 1960-х гг.

Уступныя словы знайшлі шматлікія ўдакладненні ў выступленнях прысутных на пасяджэнні круглага стала. Трэба падкрэсліць, што панавала дэмакратычная атмасфера, відавочная зацікаўленасць да асэнсавання пытанняў, якія агучваліся калегамі. Таму нярэдка прамоўцы павінны былі прыпыняцца, каб аператыўна даць адказ на тое ці іншае пытанне, якое ўзнікала ў слухачоў. Праз друк дастаткова цяжка перадаць відавочны дыскусійны накірунак, што міжволі быў абраны на пасяджэнні. Таму ў асноўным будуць пададзены сістэматызаваныя, абагулена-сутнасныя выказаныя выступоўцамі палажэнні і высновы.

*Спачатку слова было дадзена прафесару, загадчыку кафедры гісторыі старажытнага часу і сярэдніх вякоў* ***В. А. Фядосіку****, які засяродзіў увагу прысутных на гістарычна-параўнальных абставінах адмены асабістай залежнасці сялянства Заходняй Еўропы ў Познім сярэднявеччы. Спачатку прафесар, згадаўшы заканадаўчыя акты 19 лютага 1861 г., параўнаў сутнасныя характарыстыкі задум саноўных расійскіх рэфарматараў з іншым заканадаўчым актам — арданансам караля Францыі Людовіка X ад 3 ліпеня 1315 г. аб адмене асабістай залежнасці сялян*. «Старадаўні дакумент пачынаецца са слоў: «Паколькі па натуральнаму праву кожны павінен нараджацца свабодным...». Далей канкрэтызуецца працэдура адмены асабістай залежнасці ў каралеўскім дамене — стварэнне асаблівых камісій, праз якія будзе дасягацца пагадненне аб памерах выкупа асабістай залежнасці, і кароль выказвае ўпэўненасць, што і ўсе астатнія сеньёры Францыі возьмуць прыклад з гэтай яго справы. Хоць гісторыкі і называюць адмену асабістай залежнасці сялян у Францыі «аднамаментным актам», але ж на самой справе і ў Францыі гэты працэс не быў імклівым. Тым не менш да канца XIV ст. з асабістай залежнасцю сялян у Францыі было фактычна скончана. Яшчэ раней гэта адбылося на поўначы Італіі з яе гарадамі-дзяржавамі і развіццём мануфактурнай вытворчасці (шэраг гісторыкаў гаворыць аб канцы XIII ст., хоць потым назіраліся спробы аднаўлення сялянскай залежнасці).

У Англіі працэс вызвалення сялян ад асабістай залежнасці расцягнуўся на ўсё Позняе сярэднявечча. Там не было такіх дзяржаўных актаў, як у Францыі. Гэта рабілі самі феадалы, і тыповым для Англіі была «камутацыя паншчыны» — фактычна выкуп сялянамі паншчыннай павіннасці. У дзяржавах Пірэнейскага паўвострава вызваленне сялян ад асабістай залежнасці было больш познім. XIII ст. было нават «разгарам прыгонніцтва», бо ў XIV ст. у Арагоне (які ў наступным стагоддзі аб'яднаецца з Кастыліяй у Іспанію) феадал меў права на жыццё залежнага. Аднак і ў Іспаніі ўжо да канца XV ст. асабістая залежнасць сялян знікае.

Нашмат марудней і складаней адбывалася вызваленне сялян ад асабістай залежнасці ў Германіі. Прычым не толькі на ўсход ад Эльбы (сярод даследчыкаў даўно замацаваўся тэрмін «другое выданне прыгонніцтва» ў прымяненні да гэтага рэгіёна часоў Позняга сярэднявечча і нават пачатку Новага часу), але і ў заходніх землях. Тут шмат залежала ад рынкавых інтарэсаў феадалаў. Асабістае вызваленне сялян пашырала ў краінах Заходняй Еўропы ўнутраны рынак: і сяляне, і феадалы ўцягваліся ў рынкавыя адносіны. Выгаднай справай станавілася развіццё зернявой даменіяльнай гаспадаркі, асабліва ў Германіі, што стрымлівала вызваленне сялян з асабістай залежнасці. Між тым яшчэ вядомы савецкі медыявіст М. А. Барг адзначыў, што спробы ўцягнуць паншчыну ў даменіяльную гаспадарку, разлічаную на рынак, вядуць да краху такой гаспадаркі, бо падрываюць яе аснову — сялянскую гаспадарку.

Асабістая залежнасць сялян была адменена на працягу Позняга сярэднявечча амаль ва ўсёй Заходняй Еўропе. І гэта было адным з двух галоўных фактараў ператварэння заходнееўрапейскага грамадства ў познефеадальнае. Менавіта такое грамадства было ўласцівым Заходняй Еўропе ў XIV—XV стст., гэта — пастулат, які кафедра гісторыі старажытнага часу і сярэдніх вякоў БДУ сцвярджае ў падручніках і для ВНУ, і для школы. І гэта не наша вынаходніцтва, а вынік развіцця сучаснай медыявістыкі, палажэнне, што дасягнута фактычна кансэнсусам вядучых замежных медыявістаў. Выключную ролю ў гэтым адыгралі «школа Аналаў» і яе паслядоўнікі. Замест груваскага вызначэння феадалізму ў савецкай марксісцкай навуцы (з акцэнтам на сялянскую гаспадарку і становішча сялян — відаць, каб у рамках тэорыі фармацый адзначыць розніцу ў становішчы рабоў і залежных сялян) з'явілася простае і дакладнае вызначэнне феадалізму. У Жака Ле Гоффа заходнік такі: феадалізм — гэта сістэма асабістай і пазямельнай залежнасці, у цэнтры якой — феод. Сувязі асабістай і пазямельнай залежнасці дзейнічаюць сярод феадалаў (сеньёр — васал) і паміж феадаламі і сялянамі. Гэтыя сувязі — галоўныя і вызначальныя ў феадальным грамадстве, час іх росквіту ў Заходняй Еўропе — Высокае сярэднявечча (X—XIII стст.). У Позні сярэднявеччы адбылася істотная трансфармацыя: былі ліквідаваныя феадальная іерархія (адзін сеньёр для ўсіх феада-

лаў — кароль) і асабістая залежнасць сялян ад феадалаў. Таму і грамадства Заходняй Еўропы прынята назначаць як познефеадальнае. Трэба адзначыць, што асабістае вызваленне сялян адбывалася праз выкуп (каралю ці феадалам). Канешне, далёка не ўсе катэгорыі сялянства Заходняй Еўропе знаходзіліся і раней у асабістай і пазямельнай залежнасці ад феадалаў. А тыя, хто атрымаў у XIV—XV стст. вызваленне ад асабістай залежнасці, акрамя выплаты выкупа, атрымалі і падаткі ад дзяржавы (асабліва разнастайнымі яны былі ў Францыі).

Частковае разбурэнне феадальных сувязей было падмуркам для стварэння цэнтралізаваных дзяржаў у Еўропе Позняга сярэднявечча. Фразу Людовіка XIV: «Дзяржава — гэта я», — меў поўнае права вымавіць на 200 гадоў раней Людовік XI, і гэта было б праўдай, бо ў Францыі склалася нацыянальна-дзяржаўная свядомасць і кароль успрымаўся як вярхоўны сюзерэн для ўсяго яе насельніцтва. Сялянства, якое атрымала асабістую свабоду (але значная частка сялян знаходзілася ў пазямельнай залежнасці ад феадалаў), не разглядалася як актыўны слой грамадства. Іх прадстаўнікоў не было ў саслоўна-прадстаўнічых установах.

Калі ўзяць усход Еўропы (на ўсход ад Эльбы), то доўгае (яшчэ на шэраг стагоддзяў) існаванне асабістай і пазямельнай залежнасці сялян не магло спрыяць росту іх нацыянальна-дзяржаўнай свядомасці (цэнтральнай фігурай іх галоўных грамадскіх сувязей заставаўся пан-феадал). Гэта было і адным з фактараў замаруджвання стварэння цэнтралізаваных дзяржаў. У Старажытнай Русі феадальныя адносіны скла ліся намнога пазней, чым на захадзе Еўропы. Фактычна аб іх можна гаварыць у дачыненні да канца перыяду «ўдзельшчыны», якая была палітычнай, а зусім не феадальнай раздробленасцю. Бо не было ні феода, ні нават бенефіцыя. І Франкская дзяржава развалілася зусім не ў выніку феадальнай раздробленасці (гэта два «штампы» савецкай гістарыяграфіі). Кожны кароль і імператар франкаў дзяліў сваю дзяржаву яшчэ пры жыцці паміж сынамі. Адзіны манарх там быў з’явай выключна рэдкай: калі паміралі суправіцелі (як пры Карле Вялікім) ці адзін з нашчадкаў знішчаў іншых. Бывала і па два імператары (бацька і сын). У Старажытнай Русі род Рурыкавічаў стаў на чале ўсіх княстваў, не засталося нават былых племянных правадыроў (аналагаў франкскім герцагам). А вось калі пачалі складвацца адносіны сеньёр — васал, то гэта якраз спрыяла ўзвышэнню Маскоўскага Княства (аб гэтым у нас пісалі браты Цемушавы). Цэнтралізацыя Расійскай дзяржавы адбывалася хутка і не так, як на захадзе Еўропы. Вялікія князі рашуча і жорстка ліквідавалі сувязь сеньёр — васал, становячыся вярхоўнымі сюзерэнамі для ўсіх феадалаў. Між іншым, частка васалаў, якая страціла сваіх сеньёраў, падалася і ў ВКЛ шукаць новых сеньёраў (па падліках нашага маладога даследчыка А. У. Казакова, на пачатку XVI ст. яны склалі больш за 20 % дваранства ВКЛ). І трэба разумець рэальныя феадальныя сувязі ў ВКЛ, Вялікім Княстве Маскоўскім, каб не пераносіць стэрэатыпы сучаснай ментальнасці на з’явы XIV—XVII стст., прыпісваючы нацыянальна-дзяржаўную свядомасць людзям зусім іншага грамадства і з іншай ментальнасцю. Масковія-Расія XV—XVI стст. не была саслоўна-прадстаўнічай манархіяй, Земскія саборы (асабліва прынцып іх фарміравання) зусім не тое, што англійскі парламент, французскія Генеральныя штаты ці іспанскія картэсы. Дарэчы, і у сойме ВКЛ не было гараджан (і гэта пры Магдэбургскім праве), а з духавенства — толькі адзінкі.

У працэсе стварэння расійскай цэнтралізаванай дзяржавы разрывалася сувязь сеньёр — васал, ліквідавалася феадальная іерархія. Але гаварыць аб познефеадальным грамадстве не выпадае, бо іншая сувязь (асабістая залежнасць сялян ад феадалаў) не толькі не разрывалася, а, наадварот, умацоўвалася, прычым са спазненнем — Саборнае ўлажэнне 1649 г. Ды і заканадаўства ВКЛ XVI ст. паказвае на падобнае ў адносінах да сялянства (з іншага боку — шляхецкія «вольнасці», накшталт рыцарскіх у англійскай «Вялікай хартыі вольнасцяў» яшчэ 1215 г.). У Расіі такі стан і быў законсерваваны да 1861 г.: «верхнія» класічныя феадальныя сувязі разарваныя, а феадальная залежнасць значнай часткі сялянства была аналагам адносін не познефеадальнага грамадства Заходняй Еўропы, а грамадства часоў яшчэ Высокага сярэднявечча. Захад і ўсход Еўропы (на ўсход ад Эльбы) развіваліся рознымі шляхамі.

*Дацэнт кафедры гісторыі Расіі **В. В. Сергеенкава** спыніла ўвагу прысутных калег на суадносінах аб'ектыўных і суб'ектыўных фактараў у падрыхтоўцы і правядзенні «Вялікіх рэформ», як і наступствах іх «палавінчатасці». Тым самым быў зроблены як бы кароткі ўступ да дэталізацыі найбольш важных і дакладных абставін як самой адмены прыгонніцтва, так і гістарыяграфічных і крыніцазнаўчых прадстаўленняў навуковай праблематыкі гэтай гістарычнай падзеі. Вера Васільеўна распачала з таго, што* «отмена крепостного права в России в 1861 г. и последовавшие за ней Великие реформы — крупнейшее событие, «перелом», «поворотный пункт» истории России. Такие оценки давали сами законодатели, их современники, исследователи. В историографии реформы 1860—1870-х гг. называются и «великими», и «буржуазными». Интерес к ним никогда не исчезал. На определенных этапах исторического развития он приобретал особенную остроту и общественно-политическую актуальность.

После Крымской войны в России сложились объективные условия для отмены крепостного права. Один из идеологов теории «официальной народности» М. П. Погодин в 1855 г. определил ситуацию следующим образом: «Прежняя система отжила свой век». Но нельзя сбрасывать со счетов и субъективный фактор, а именно личность императора Александра II и его реформаторскую решительность. Вопрос о престиже страны стал для него очень важным, побудил пересмотреть всю политику. После подписания унизительного для России Парижского мира в печати и в российском обществе зазвучали слова «гласность», «оттепель» — правительство и общество осознали необходимость осуществления реформ.

Александр II стремился повернуть дело таким образом, чтобы инициатива отмены крепостного права исходила от дворянства. Через губернаторов оказывалось определенное давление на поместное дворянство с целью изъявления ими желания отменить крепостное право. 28 января 1861 г. началось рассмотрение проекта крестьянской реформы в Государственном совете. «Я надеюсь, господа, — сказал на этом заседании император, — что при рассмотрении проектов, представленных в Государственный совет, вы убедитесь, что все, что можно было сделать для ограждения выгод помещиков, сделано». Большинство членов Государственного совета проголосовали против реформы, однако Александру II хватило мужества утвердить мнение меньшинства. Личностный фактор сыграл, таким образом, немаловажную роль. Таким образом, к середине 1850-х гг. в едином потоке соединились объективные и субъективные факторы, определившие в итоге наступление «эпохи великих реформ».

*Некаторая дэталізацыя дадзеных абставін «на беларускім узроўні» прагучала ў выступленні дацэнта кафедры гісторыі Беларусі новага і навейшага часу **В. А. Цяпловай***: «Хорошо известно, что начиная крестьянскую реформу правительство инициировало идею ее реализации со стороны дворянства белорусско-литовских губерний. Считалось, что «...в западных губерниях России, особенно в тех, которые лежат при границах Австрии, Пруссии и в соседстве с Остзейскими губерниями, идея о свободе крестьян более развита в умах помещиков», чем во внутренних губерниях империи. Программа преобразований, выработанная западным дворянством, сводилась к идее безземельного освобождения крестьян. Однако она дала возможность правительству сформулировать другую концепцию: обязательного наделения крестьян полевыми наделами. Крестьянская проблема при рассмотрении в дворянских комитетах белорусско-литовских губерний в 1858—1859 гг. обнаружила единство позиций привилегированного сословия в решении главного вопроса — проведение аграрной реформы только по «остзейскому» образцу, как наиболее благоприятному для них. Наделение освобожденных крестьян землей в постоянное пользование предлагалось только в отдельных уездах Могилевской, Витебской и Минской губерний, там, где помещики не вели собственного хозяйства, а получали доходы с принадлежавших им предприятий и с оброчных крестьян.

В концепции Виленской комиссии, отосланной в Санкт-Петербург, фиксировалась идея безземельного освобождения крестьян, которая была не только консервативной, но и явно оппозиционной правительству. Большинство дворянства белорусско-литовских губерний не

приняло правительственного проекта. Открытое осуждение высказал только В. Сырокомля, назвав его позорным и рабским. Сдержанную позицию белорусско-литовского дворянства можно объяснить его убеждением, что наиболее актуальным вопросом для западных губерний является не аграрный, а политический. Именно общественно-политические проблемы края прозвучали в ходе восстания 1863—1864 гг., а недовольство дворянства начавшейся крестьянской реформой подтолкнуло их к активному участию в восстании».

*Пэўным працягам уступных выступленняў стала прамова загадчыка сектара гістарыяграфіі і метадаў гістарычнага даследавання Інстытута гісторыі НАН Беларусі **В. В. Яноўскай**. Яна правяла гістарыяграфічны аналіз, які сведчыць, што развіццё гістарычнай думкі па праблемах сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі* «...цяжка ўявіць як проста эвалюцыю навуковых поглядаў. Хутчэй, гэта быў не заўсёды паступовы працэсс, які адлюстроўвае цяжкасці даследчыкаў, калі пры вырашэнні тых ці іншых навуковых праблем яны павінны былі суадносіць іх не з гістарычным матэрыялам і кіравацца прынцыпам гістарычнасці, а з пануючымі ідэалагічнымі ўстаноўкамі. Першыя даследаванні па гісторыі эканомікі Расійскай імперыі, саслоўнай структуры грамадства з'явіліся ў XIX — пачатку XX ст. У іх удзялялася ўвага і вызначэнню месца беларускіх зямель, мадэрнізацыйным працэсам. Праблема сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі ў складзе Расійскай імперыі працягвала цікавіць гісторыкаў і ў паслякастрычніцкі перыяд. Чаму спрыяла ўтварэнне інстытута гісторыі ў Беларускай Акадэміі навук. Сярод першых кніг інстытута — працы Д. Дудкова «Сталыпінская рэформа ў Віцебскай губерні» і К. Кернажыцкага «Аграрная рэформа ў Бабруйскім старостве і эканамічнае становішча яго насельніцтва з XVII да паловы XIX ст.» (1931). У 1932 г. з'явілася манаграфія Д. Дудкова «Аб развіцці капіталізму ў Беларусі ў 2-й палове XIX і пачатку XX ст.», у 1935 г. К. Кернажыцкі выдаў «Гаспадарка прыгоннікаў на Беларусі ў канцы XVIII і першай палове XIX ст. (да праблемы разлажэння феадалізму ў Беларусі)». Гэтыя манаграфіі, як і дакументальныя зборнікі «Матэрыялы да гісторыі мануфактуры Беларусі ў часы распаду феадалізма» (выдадзены ў 1934—1935 гг.), дазволілі высветліць той «доўгі час адмаўляўшыйся народнікамі факт, што ўсе часткі царскай Расіі (у тым ліку і Беларусь) не пазбавіліся ў XIX ст. агульнага лёсу і падвяргаліся ўплыву капіталістычных адносінаў».

У гістарыяграфічнай літаратуры замацавалася думка аб перавазе ў даваенны час сацыяльна-эканамічнай праблематыкі ў гістарычных даследаваннях. Гэтае сцверджанне цалкам адносіцца і да акадэмічнага Інстытута гісторыі. На першы погляд, гэта было вынікам тых абставінаў, калі дадзеная праблематыка здавалася менш небяспечнай і палітызаванай. Але на самой справе і гэтая тэматыка не ахоўвала аўтараў ад магчымых палітычных наступстваў. Вось толькі адзіны прыклад. На працягу 1930-х гг. амаль штогод звярталася ўвага на «палітычнае аблічча» К. Кернажыцкага. Дакументы ЦНА НАН Беларусі дазваляюць прасачыць «эвалюцыю» поглядаў кіраўніцтва акадэміі аб яго асобе. Так, у ходзе акадэмічнай праверкі 1934 г. адзначалася, што ў яго работах «имеются ошибочные толкования роли торгового капитала в Белоруссии», а таксама памылкі «троцкистского порядка, отмеченные в постановлении ЦК КП(б)Б в 1932 г.». У 1936 г. побач з цалкам станоўчай адзнакай яго навуковай дзейнасці ўжо больш жорстка адзначалася: «У палітычных адносінах, не гледзячы на праяўленне з яго боку інагда празмернага ўсердзя «пільнасці», астаўляе за сабой самненне. Хаця б за сувязь з высланым бацькам папом і раскулачаным братам, а таксама з гісторыкам Пічэтай, высланым з БССР». А ўжо ў 1937 г. К. Кернажыцкі быў асуджаны «как активный участник шпионской нацфашистской организации». У абвінавачанні знайшлося месца і для характарыстыкі яго навуковых прац. У ім сцвярджалася, што К. Кернажыцкі «в своих научных «работах» ...протаскивал явно нацфашистские установки, отрицал борьбу белорусского народа с польскими панами, трактовал троцкистские установки...».

Зразумела, даследаванне праблематыкі працягвалася і ў пасляваенныя гады. Але абмежаваныя фармацыйнай макратэорыяй і класавым падыходам, гісторыкі нярэдка былі непасля-

доўнымі, іх высновы не заўсёды былі дастаткова абгрунтаванымі і супярэчылі адна адной. У выніку быў зроблены крок назад у параўнанні з работамі, што выйшлі ў даваенны час.

*Натуральным працягам дадзенага выступлення стала цікавая характарыстыка стану яшчэ малавядомых крыніц па ўзнятай праблематыцы, якая прагучала з вуснаў **Алены Фірыновіч**. Яна звярнулася да новых знаходак з беларускіх архівасховішчаў у рэчышчы асвятлення пытання «грамадскасць беларуска-літоўскіх губерняў у віхуры падзей 60-х гг. XIX ст.». Было адзначана, што* «навуковае асвятленне 1860-х гг. у гісторыі Беларусі так і не мае адзінства ў канцэптуальных ацэнках. Відавочны ўплыў ідэалагічных запатрабаванняў рознага часу, а ў сувязі з гэтым ці не — маніпуляцыі з дакументальнымі матэрыяламі. Таму і сёння маецца патрэба ў звароце да “крыніцазнаўчага капіталу” архіваў Мінска і Гродна, напрыклад, у раскрыцці некаторых аспектаў дачынення грамадскасці беларуска-літоўскіх губерняў (жанчын, вучнёўскай моладзі і службоўцаў) да рэалій 1860-х гг.

Колькасны склад прадстаўнікоў вылучаных груп падлічыць даволі складана. Гэта абумоўлена, па-першае, вядзеннем у 60-я гг. XIX ст. у Расійскай імперыі ўліку толькі па сацыяльнай прыкмеце; па-другое, статыстычныя звесткі прадстаўлены ў асноўным алфавітнымі спісамі, ведамасцямі па канфіскацыі і секвестру маёмасці з фондаў губернскіх канцылярый. Зразумела, такая выбарка здымае наяўнасць гендэрна-ўзроставага і прафесійнага зрэзу. Аднак дадатковыя вылічэнні магчыма атрымаць са справаздачнай дакументацыі ваенных павятовых, гарадскіх і турэмных начальнікаў. Напрыклад, толькі за студзень 1864 г. у Віцебскім турэмным замку за злачынствы палітычнага характару са 105 арыштантаў 27 (25,7 %) належалі да службоўцаў (НГАБ. Мінск. Ф. 1430. Воп. 1. Спр. 31584. Арк. 21).

Яшчэ цяжэй правесці аналіз іх нацыянальнага складу. Падсвядомае атаясамленне ўрадам веравызнання і нацыянальнасці не дазваляе аб’ектыўна адказаць на гэтае пытанне.

Найбольш поўна і паслядоўна калекцыі беларускіх архіваў фарміруюць інфармацыйную базу ў выяўленні форм і метадаў антыўрадавай барацьбы. Яны непасрэдна залежалі ад этапаў паўстанцкага руху. Так, у маніфестацыйны перыяд (восень 1861 г. — зіма 1862 г.) усе тры аналізуемыя групы выкарыстоўвалі аднолькавыя метады супраціву: касцёльныя патрыятычныя акцыі, вулічныя дэмаршы і агітацыю. З пачаткам узброеных сутыкненняў (зіма 1863 г. — вясна 1864 г.) з’явіліся больш складаныя і небяспечныя формы. Адны з іх насілі міжгрупавы (кансалідацыйны) характар (кур’ерства, забеспячэнства, членства ў паўстанцкіх арганізацыях), удзел у другіх абмяжоўваўся полаўзроставай і прафесійнай спецыфікай групы. Службоўцы арганізоўвалі шпіянаж, узброеную барацьбу; жанчыны — медыцынскую апеку і дабрачыннасць. Пасля падаўлення паўстання выхаванцы сярэдніх навучальных устаноў да антыдзяржаўнай дзейнасці асабліва не прычыняліся. Чыноўнікі і жанчыны актыўна займаліся ўкрывальніцтвам. Першыя падраблялі пашпарты, пасведчанні, другія — пісалі прашэнні аб памілаванні, падавалі хадайніцтвы. І можна зрабіць выснову, што аб’ектыўна паўстанне 1863—1864 гг. закранула ў той ці іншай ступені ўсе слаі насельніцтва».

*Факультэцкі расіязнаўца, дацэнт кафедры гісторыі Расіі **С. Л. Лугаўцова** таксама абрала прадметам свайго выступлення характарыстыку аднаго з відаў крыніц: яна прааналізавала ўспаміны міравых пасрэднікаў. Гісторык сказала наступнае*: «Восстание 1863—1864 гг. внесло существенные коррективы в реализацию крестьянской реформы на территории Беларуси. В частности, по указу от 18 апреля 1863 г. в связи с выходом в отставку 28 человек Гродненской губернии, занимавших должности уездных предводителей дворянства, уездных судей и мировых посредников, все эти должности были замещены чиновниками по назначению правительства. Потомственные дворяне Н. К. Полевой, поручик лейб-гвардии конной артиллерии, завсегдатай Петербургских салонов, и В. П. Березин прибыли в Беларусь не в поисках денег и чинов, а были идейными сторонниками реформы и методов ее реализации в северо-западных губерниях. По их воспоминаниям прослеживается: взгляд приезжих чиновников на Беларусь, характеристика местного крестьянства, условия работы мировых посредников в крае.

Авторы с неподдельной радостью пишут об успехах в устройстве волостных училищ, проведении справедливых рекрутских наборов, возвращении крестьянам захваченных земель. Мемуаристы исходили из представления о Северо-Западном крае, как об исконно русской земле, принадлежавшей России по историческому и государственному праву. Они чувствовали себя ответственными за сохранение этих территорий в составе государства, за судьбу родины. Изучение вопроса о деятельности мировых посредников в крае приводит к еще одному выводу: о порочности системы власти, сосредоточенной в руках одного человека, ее губительных последствиях для жизни общества. Авторы же мемуаров позволяли себе мыслить и действовать самостоятельно. Смелость чиновников приветствовалась в работе государственного аппарата в кризисный период 1863—1864 гг., когда само существование российской власти в крае оказалось под угрозой. После подавления восстания государственная машина самодержавия выдавливает из своей среды наиболее инициативные элементы».

*У сваім выступленні прафесар Брэсцкага дзяржаўнага тэхнічнага ўніверсітэта* ***А. М. Баюра*** *звярнуўся да пытанняў рэалізацыі адной з першых буржуазных рэформ — фінансавай. Ён адзначыў*: «Финансовая (денежная) реформа проводилась в 1862—1863 гг. Она включала в себя различные мероприятия, которые должны были стабилизировать денежное обращение в государстве, находившееся в расстроенном состоянии из-за значительной эмиссии бумажных денег в годы Крымской войны.

Еще накануне отмены крепостного права, 22 марта 1860 г., согласно указу Александра II, был увеличен выпуск разменных серебряных монет за счет снижения пробы серебра в них с 862-й до 750-й веса монет на 15 %. В начале 1862 г. было объявлено о публикации государственного бюджета и установлено правило, что единственным распорядителем государственных средств является Министерство финансов. Также вводился особый ревизионный орган, подчинявшийся непосредственно царю, — государственный контроль, который следил не только за размерами расходуемых сумм, но и за правильным их использованием именно на те цели, на которые они были ассигнованы. Министр финансов в те годы М. Х. Рейтер считал, что главным условием стабилизации финансовой системы должен стать свободный размен бумажных денег на серебряную и золотую монету. Он предлагал вернуться к системе серебряного стандарта, существовавшего в России до начала Крымской войны. Для этого необходимо было создать существенный запас «звонкой» монеты, в первую очередь серебряной. Эта задача требовала крупных средств, которых у российского правительства не было, и поэтому оно прибегло к внутренним и внешним займам. Внутри страны в 1861—1862 гг. были выпущены ценные бумаги, так называемые 4-процентные билеты Государственного банка, номиналом 300 руб. серебром, которые впоследствии погашались тиражами в течение 41 года. В апреле 1862 г. был получен крупный иностранный заем в Париже в банке «Братья Ротшильд» и в Лондоне в банке «Н. М. Ротшильд и сыновья» в сумме, равной 85 млн российских рублей. Благодаря этому разменный фонд металлических денег вырос до 120 млн руб.

Обменная операция (бумажных денег на серебряные и золотые монеты и наоборот) проводилась в мае 1862 г. — декабре 1863 г. Однако успеха она не принесла. Восстановить устойчивость денежной системы и покупательную способность рубля не удалось. Этому способствовала как непродуманность обменной операции (меняющиеся цены, по которым банк продавал и покупал монеты, были объявлены заранее, чем воспользовались спекулянты), так и государственные расходы, связанные с подавлением восстания 1863 г. В 1864—1895 гг. в России установилось обращение неразменных на серебро и золото бумажных денег».

*Дакладны гістарыяграфічны накірунак быў у паведамленні прафесара* ***Э. Р. Іоффе*** *пра ўнёсак у вывучэнне аграрнай гісторыі Х. Ю. Бейлькіна. І быў зроблены кароткі экскурс у навуковую «кухню» гісторыка-аграрыя*: «Изучая сельскохозяйственный рынок Беларуси 1861—1914 гг., Х. Ю. Бейлькин подчеркивает, что капиталистическая эволюция в сельском хозяйстве имела свою специфику. Ряд обстоятельств политического и экономического порядка определил

относительно быстрое развитие аграрного капитализма на белорусских землях по сравнению с другими районами России. Это, прежде всего, было связано с условиями освобождения крестьян, коррекцией политики самодержавия после подавления восстания 1863 г., железнодорожным строительством, которое способствовало расширению сбыта сельскохозяйственной продукции. Бейлькин впервые установил ряд важных фактов: накануне Первой мировой войны Минская губерния вышла на первое место в Российской империи по производству спирта, что в 1901—1913 гг. на Беларусь приходилось 10,4 % всероссийского ввоза льноволокна и ежегодно вывозилось около 1530 тыс. пудов льняного семени, что вывоз молочных продуктов (в среднем за год) в сравнении с 1901—1905 гг. увеличился более чем в два раза.

Историк считал, что аграрный кризис привел к упадку вывозной хлебной торговли в Беларуси. Сокращение вывоза из белорусских губерний прежде всего объясняется тем, что стоимость производства зерна в Беларуси была намного выше, чем в черноземной полосе. Однако в начале XX в. на белорусских землях происходил процесс, названный мобилизацией земли, что означало формирование капиталистического землевладения».

*Дастаткова шмат увагі ўдзельнікі круглага стала звярталі на асобныя пытанні, так ці інакш звязаныя з прадгісторыяй, падрыхтоўкай і правядзеннем Вялікіх рэформ. У асобных выпадках рабілася спроба выйсці на абагульненні, падаць канцэптуальны погляд. Пазначыць гістарычныя перадумовы 1861 г. паспрабавала студэнтка магістратуры БДУ па кафедры гісторыі Расіі* ***А. Шыла****, якая распавяла гаворку аб законатворчай дзейнасці імператрыцы Кацярыны II у рэчышчы вырашэння «сялянскага пытання». Магістрант звярнула ўвагу на тое, што* «Екатерина II намеревалась издать «жалованную» грамоту государственным крестьянам, хотя ее проект так и остался в рукописном варианте. Грамота государственным крестьянам была составлена по тому же образцу, что и грамоты городам и дворянству. Такой подход к проблемам социального устройства представляет поразительную картину абстрактной природы мышления Екатерины II и ее страсти к симметрии. В черновом варианте грамоты государственные крестьяне назывались «свободными сельскими жителями» и делились на шесть групп. Похожее деление Екатерина II применила относительно дворянства и горожан. Согласно грамоте первые две высшие категории государственных крестьян освобождались от телесных наказаний, а самая высшая категория могла еще и откупаться от рекрутской повинности и платить всего 1 % от их имущества подушной подати. Говорилось, что «свободные сельские жители» образовывали «общество сельское», сходное с дворянским обществом и городовым обществом, имевшее статус юридического лица. В части D проекта заявлялось, что звание государственного крестьянина являлось наследственным и передавалось жене и детям. Лишиться его можно было за те же преступления, за какие дворянство и мещане лишались своих, причем только по решению сословных судов. В проекте государственным крестьянам жаловались сословные права: на подачу коллективных жалоб, свободного передвижения без паспортов в обычное невоенное время, неприкосновенность собственности.

Освобождение крепостных крестьян также предусматривалось в планах Екатерины II. Так, она предложила членам российского «Вольного экономического общества» публично обсудить положение крестьян, надеясь заставить своих подданных хотя бы осознать политическую опасность и аморальность крестьянского права. Кроме того, имеется ничем не подтвержденное сообщение, что Екатерина II составила план, согласно которому дети крепостных, родившиеся после 1785 г., должны были получить свободу. По рассказам, этот план будто бы видел граф Д. Н. Блудов. Проекты Екатерины II по освобождению крестьянства оказались неосуществленными из-за страха императрицы перед возникновением «брожения» в умах крестьянства и недовольства со стороны дворянского сословия. Однако общественная мысль с этого времени обратилась к обсуждению «крестьянской проблемы».

*Дацэнт кафедры гісторыі Беларусі старажытнага часу і сярэдніх вякоў* ***У. А. Сосна*** *адстойваў тэзу аб тым, што* «...беларускія сяляне мелі шанс на атрыманне асабістай свабоды яшчэ

ў эпоху напалеонаўскіх войнаў, бо сялянскае пытанне ўсплывала ў планах і дзеяннях імператараў Напалеона і Аляксандра I, якія вялі палітычную барацьбу за землі былой Рэчы Паспалітай. У гэтым суперніцтве, што палягала перш за ўсё ў перацягванні на свой бок шляхецкага саслоўя, тым не менш дапускаліся рэверансы і ў адносінах да ніжэйшых пластоў насельніцтва заходніх губерняў. Напалеонаўскія агенты, якія пранікалі ў край напярэдадні вайны, маглі абяцаць усім станам не толькі аднаўленне былой дзяржаўнасці, але і буржуазныя правы і свабоды. У складзеным па даручэнні Аляксандра ў 1811 г. М. Агінскім, К. Любецкім і Л. Плятэрам праекце «Палажэння аб праўленні аўтаномным Вялікім Княствам Літоўскім», у procівагу канстытуцыі Варшаўскага герцагства, таксама прапаноўвалася паступовае, на працягу дзесяці гадоў, асабістае вызваленне сялян ад прыгоннай улады.

Як паведаміў сучаснік, для заспакаення сялян Часовы ўрад ВКЛ выдаў адозву, што такую вольнасць, як у Княстве Варшаўскім, яны атрымаюць з заканчэннем вайны, а зараз пад пагрозай суровай кары павінны выконваць ранейшыя павіннасці. Магчыма, тады так мог быць пракаментаваны змест шырока распаўсюджанай урадавай адозвы да мясцовых улад і землеўласнікаў ад 6 ліпеня 1812 г., што сяляне знаходзяцца ва ўладзе памешчыкаў і арандатараў маёнткаў да апублікавання новых распараджэнняў. Ваенныя падзеі і звязаныя з імі змены і паслабленні адміністрацыйнай улады далі магчымасць сялянам у шэрагу месцаў зусім выйсці з падпарадкавання ўладальнікаў, стыхійна ажыццяўляючы свае сацыяльна-грамадскія ідэалы. Удзел рэкрутаў у замежных кампаніях дазволіў сялянам даведацца аб іншых краінах, што павінна было весці да зрухаў у свядомасці праз параўнанне сваёй прыгоннай рэчаіснасці з жыццём свабоднага заходнееўрапейскага сялянства».

*Старшы выкладчык кафедры гісторыі Беларусі старажытнага часу і сярэдніх вякоў* ***І. Л. Грыбко*** *паспрабавала акрэсліць некаторыя пытанні рэфармавання гарадскога самакіравання ў Беларусі 1870—1890 гг. Але спачатку яна звярнула ўвагу на тое, што* «внимание правительства к этой реформе было очень велико. Обсуждение проекта реформы проходило при широком участии общественности, что существенно повлияло на подготовку Городового положения. Более 40 комиссий белорусских городов подали свои предложения о путях преобразования и полномочиях городского управления. Под влиянием консервативных тенденций в правительстве работа над проектом затянулась, и только 16 июня 1870 г. законопроект был подписан Александром II. Городовое положение 1870 г. являлось, безусловно, прогрессивным и создавало качественно новую систему муниципального управления. В ее основу были положены принципы самоуправления, бессословности и нормы буржуазного избирательного права.

На территории Беларуси реформа началась после принятия 29 апреля 1875 г. Закона «О применении Городового положения 16 июня 1870 года к городам Западных губерний». Закон предусматривал в качестве временной меры некоторые особенности в применении Городового положения. Закон 1875 г. предусматривал для городов западных губерний расширенную практику утверждения на должность избранных городских голов. На утверждение Министра внутренних дел передавалось также утверждение уездных и заштатных голов, если губернатор затруднялся в принятии решения. Закон предусматривал возможность назначения городского головы от правительства, что для российских городов являлось экстраординарным событием и вызывало огромный общественный резонанс. Еще одна особенность применения реформы к городам западных губерний осталась практически незамеченной исследователями: закон не предусматривал обязательного и одновременного применения Городового положения 1870 г. к городам западных губерний, а относил решение этого вопроса к «соображениям местного начальства». В ходе подготовки к реформе губернаторами проводился тщательный сбор и анализ информации о составе, вероисповедании, основных категориях и занятиях населения. Эти данные неплохо сохранились в фонде Хозяйственного департамента МВД и представляют несомненный интерес для исследователей социальной истории Беларуси. Еще одной особенностью осуществления реформы стала высокая доля дворянства среди

городских гласных в Беларуси. Поэтому имперские чиновники, используя Закон 1875 г., направляли значительные усилия на ограничение доступа дворян-католиков к руководящим должностям городского самоуправления».

*Выступленне **В. Ф. Голубева**, старшага навуковага супрацоўніка Інстытута гісторыі НАН Беларусі, было прысвечана пытанню суадносін паміж «свабодай» і «несвабодай» як у сельскай грамадзе да і пасля 1861 г., так і ў цэлым у расійскім грамадстве.* Выступоўца адзначы: «Гісторыкам, у адрозненне ад палітыкаў, трэба больш асцярожна выказвацца пра рэформу 1861 г., пра яе "рэвалюцыйны характар". Давайце ўспомнім, хто ў першую чаргу гаварыў пра прагрэсіўнасць рэформы? Тыя, хто яе арганізоўваў і праводзіў. За што яе крытыкавалі? За дэкларатыўнасць (заява пра асабістую свабоду сялян, якую трэба было выкупляць), за тое, што сяляне не атрымалі зямлі. Выгадна было толькі ўладам, якія некалькі знізілі сялянскія пратэсты (у тым ліку і ў Беларусі), і памешчыкам, якія атрымалі за сваю зямлю немалыя грошы ад дзяржавы, а дзяржава ад сялян. Сяляне ж свабоднымі не сталі — яны былі замацаваны за ўведзенай уладамі сельскай абшчынай, якой (а не сялянам!) і была перададзена зямля. І гэтую абшчыну змагла разбурыць толькі рэформа П. А. Сталыпіна.

Сельская абшчына ўвогуле цікавая з'ява ў гісторыі расійскага сялянства. Не сакрэт, што ў 60-я гг. XIX ст. у Расійскай імперыі практычна кожны гісторык выказаў свае адносіны да праблемы сельскай абшчыны і абшчыннага землекарыстання — праблемы, якая ў сувязі з правядзеннем сялянскай рэформы мела не толькі навуковы, але і палітычны характар. У расійскай гістарыяграфіі нават афарміўся асобны накірунак так званай "дзяржаўнай школы". Дык вось прадстаўнікі гэтага накірунку найбольш выразна сфармулявалі свае пастулаты падчас спрэчкі аб магчымых шляхах развіцця Расіі, якая разгарнулася якраз у 1850—1860-я гг. і пазней перарасла ў дыскусію аб ролі абшчыны ў жыцці гэтай дзяржавы. Гэтыя навукоўцы выступілі з канцэпцыяй аб "дзяржаўным паходжанні абшчыны ў Расіі". Цікава, што тут "знайшлі агульнае" прадстаўнікі самых розных палітычных груповак: "дзяржаўнікі", лібералы, рэвалюцыйныя дэмакраты, а таксама рух "народнікаў" другой паловы XIX ст. Менавіта ў абшчынных каранях шукалі і знаходзілі тагачасныя даследчыкі спецыфічныя рысы характару рускага народа. Напрыклад, народнікі сцвярджалі, што Расія якраз праз абшчыну і арцель пяройдзе да сацыялізма, мінуючы капіталізм, і імкнуліся гэта пацвердзіць гістарычнымі прыкладамі. Прыдуманы тэзіс аб спрадвечнасці абшчыннага землеўладкавання быў скарыстаны ўладамі, супраць яго не выступіла ніводная палітычная сіла. А сяляне, замест прадэклараванай свабоды ад прыгону, засталіся часоваабавязанымі — працэс атрымання поўнай свабоды быў расцягнуты на 49 гадоў (тэрмін выплаты коштаў за зямлю) — і залежнымі ад уведзенай уладамі абшчыны».

*Выступоўца быў «засыпаны» пытаннямі і рэплікамі калег. Спачатку госць круглага стала, дацэнт Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна **А. А Загорнаў**, паспрабаваў абазначыць прававыя аспекты праблемы «вызвалення сялян», якія не прагучалі ў выступленні Валянціна Фёдаравіча. Ён засяродзіў увагу калег на ўзаемасувязі паміж адменай прыгоннага права і трансфармацыяй прававога мыслення беларускіх сялян. Гісторык упэўнены ў тым, што* «Великие реформы» второй половины XIX в. привели к глубоким изменениям в государственном и общественном строе России и оказали серьезное влияние на ментальность населения. В этой связи особый интерес представляет развитие правового сознания, так как оно отражает отношение граждан к политическим и правовым институтам, к правопорядку в обществе. Правовое сознание представляет собой систему убеждений о приоритетах, нормах и моделях поведения.

Изменение общественного статуса крестьянства после отмены крепостного права привело к началу трансформации правового сознания крестьянства, оно характеризовалось постепенным и медленным включением новых элементов в представления о праве, а также сближением с официальной правовой системой, что, конечно, было процессом большой длительности. Основной причиной разнонаправленности и отличия официальных и крестьянских

правоотношений стало длительное господство крепостного права, именно оно закрепило правовую обособленность крестьянства. В результате реформы 1861 г. изменился общественный статус крестьянства. Появилось единое сословие, освобожденное от крепостной зависимости, наделенное самоуправлением и гражданскими правами.

Крестьяне унаследовали особый строй правовых отношений, отождествляемых в их сознании с чувством справедливости. Специфические взаимоотношения членов «мира», своеобразие хозяйственного быта, патриархальное устройства семьи, особые имущественные отношения — все это порождало правовые казусы, неразрешимые на основании официальных законов. Серьезное изменение социально-экономической и правовой ситуации в белорусской деревне второй половины XIX в. привело к трансформации правового сознания крестьян. Сложный процесс ломки устоявшихся правовых представлений и стереотипов был осложнен непоследовательной правительственной политикой в отношении крестьян. Однако, с формированием нового отношения к знанию права и закреплением новых правовых установок, изменения в правовом сознании стали постепенно нарастать».

*У рэпліцы **І. Л. Грыбко** было падкрэслена, што* «...сустракаецца шмат дакументаў, якія сведчаць аб захаванні значнай ролі абшчыны ў парэформенны перыяд, асабліва ў сацыяльным плане. Адбываюцца заўважныя змены ў жыцці абшчыны, але яна засталася запатрабаванай, выконвала складаныя грамадскія і гаспадарчыя функцыі. Як адзначаў А. А. Загорнаў, Сенат актыўна ўмешваўся ў нормы звычаёвага права. Але тлумачэнні Сената агульна мадэрнізавалі і пашыралі правы абшчыны ў гаспадарчым, сямейным, спадчынным праве (Рашэнні Сената ад 16 сакавіка 1887 г., 10 верасня 1891 г., 12 лістапада 1891 г.). У канцы XIX—пачатку XX ст. у сходах абшчыны на роўных прымаюць удзел жанчыны, што абумоўлена ў пэўнай ступені адыходніцтвам. Ускладніліся сацыяльныя функцыі абшчыны па апёцы, асабліва дзяцей-сірат, у вырашэнні спадчынных пытанняў. Падаецца, што пасля рэформы абшчына не вычэрпала свайго патэнцыялу. Таксама цікава адзначыць, што ў складзе адной сельскай грамады ў Беларусі часам аб'ядноўваліся дзве абшчыны. Так, ў 1886 г. у Радашковіцкай воласці было 6 сельскіх грамад, але 8 абшчын, у Лідскай воласці — 6 грамад, але 11 абшчын».

*З удакладненнямі дыскусійных пасылаў выступлення В. Ф. Голубева звярнуўся да прысутных дацэнт кафедры гісторыі Расіі **Ю. А. Блашкоў**. Ён паспрабаваў адвергнуць тэзу В. Ф. Голубева аб тым, што сялянскую абшчыну на тэрыторыі Беларусі насільна ўвёў урад у ходзе правядзення ў жыццё палажэнняў аграрнай рэформы. І быў падтрыманы маладым кандыдатам гістарычных навук **В. А. Кахновічам**, дысертацыя якога якраз абаронена па праблематыцы аграрнай гісторыі парэформеннага часу. Даследчык прывёў доказы на карысць таго, што неабходна* «...отчетливо связывать исторические явления с той исторической средой и обстоятельствами, в которых они находились. Безусловно, конец XIX в. и 1860-е гг. — это уже в значительной степени разные эпохи. Вместе с тем и для середины XIX ст. весь общественный уклад и образ жизни оставался аграрным. Множество однозначных примеров в доказательство мы можем найти в документах эпохи. К примеру, материалы вотчинного делопроизводства, документы, отражающие выкупную операцию, — в них (на примере имений Горватов и др.) мы можем найти указания на то, что как помещикам, так и самим крестьянам во внешних отношениях, в представлении интересов удобной и предпочтительной формой была община (то или иное сельское общество). Община функционально соответствовала реалиям времени и уровню общественного развития. Нет оснований связывать ее с некой внешней формой. В данном случае, возможно, Валентина Федоровича следует понимать в том ключе, что российское законодательство зафиксировало и несколько развило, дополнило и расширило имеющиеся функции общины, но не создавало их. Касаясь же реальности общины на Беларуси в обозначенное время, отметим, что нельзя отрицать наличие общины (коммуны) и в Западной Европе в это же время и позднее (например, во Франции). В качестве же яркого внешнего признака, который свидетельствует о наличии общины в Беларуси, достаточно привести широко

распространенные и фиксируемые в источниках так называемые «общие земли». Отметим, что данный термин шире, чем «сервитуты». Уже этого обстоятельства достаточно для утверждения о наличии общины на белорусских землях в до- и пореформенное время».

*Універсітэцкі выкладчык з кафедры гісторыі Беларусі новага і навейшага часу* ***Г. І. Маскевіч*** *звярнуў увагу на стан сельскай грамады ў Беларусі пасля адмены прыгоннага права і зрабіў гісторыка-лінгвістычны аналіз шырока вядомых тэрмінаў «сельская грамада» і «сельская абшчына», тым самым у каторы раз удакладніўшы выступленне В. Ф. Голубева. Выступоўца сказаў*: «У адпаведнасці з агульнымі палажэннямі рэформы стваралася сістэма кіравання былымі памешчыцкімі сялянамі, ніжэйшай структурай якой з'яўлялася сельская грамада (сельское общество). Разам з тым з даўніх часоў існавала такая характэрная форма арганізацыі жыцця, як сялянская абшчына (крестьянская община). Вывучэнне гэтых дзвюх з'яў у гісторыі Беларусі другой паловы XIX ст. ускладняецца тым, што нярэдка ў гістарыяграфіі назіраецца блытаніна ў выкарыстанні паняццяў «грамада» і «абшчына», часта яны ўжываліся як поўнасцю раўназначныя тэрміны. Тым не менш паміж гэтымі з'явамі існуюць істотныя адрозненні.

Сялянская абшчына, па-першае, мела больш глыбокія карані ў сялянскім асяроддзі. Па-другое, яна была распаўсюджана пераважна ва ўсходніх губернях Беларусі (Віцебская, Магілёўская, часткова Мінская), так як з'яўлялася выключна формай землекарыстання сялян. На захадзе ж Беларусі дамініравала падворнае сялянскае землекарыстанне. Сельская грамада, як форма самакіравання сялян, была створана афіцыйна толькі ў XIX ст. Існавала сельская грамада на ўсёй тэрыторыі Беларусі, незалежна ад таго, які тып землекарыстання быў характэрны для асобнага рэгіёна. Яна стваралася ў кожнай губерні з сялян, што належалі аднаму памешчыку, і ўваходзіла ў склад больш буйной адзінкі — валасці. Выканаўчым органам грамады з'яўляўся сельскі сход. У губернях з абшчынным землекарыстаннем вырашэнне ўсіх зямельных пытанняў выносілася на сельскі сход. Для губерняў з падворным землекарыстаннем уплыў сельскай грамады на вырашэнне пазямельных пытанняў (звязаных з падворным землекарыстаннем) быў абмежаваны. Такім чынам, сельская грамада — гэта форма грамадскай арганізацыі сялян, адзінка самакіравання, а сялянская абшчына — форма сялянскага землеўладання, якое існавала ў сельскай грамадзе нароўні з падворным».

*Некалькі з іншага пункту гледжання да праблемы, якая вызвала спрэчкі, дакранулася дацэнт кафедры гісторыі Расіі* ***В. В. Брыгадзіна****, якая зрабіла гістарычны экскурс у парэформенную паўсядзённасць жыцця «свабодных» ужо расійскіх сялян. Яна сказала*: «После отмены крепостного права многое в деревне изменилось. Начался процесс трансформации крестьянского «мира» в сельское общество. Законы все сильнее регулировали жизнь общины. Выборные должности (старосты и сборщики налогов) должны были руководствоваться законом, а не обычным правом. Изменились материальные условия жизни в деревне. Многие крестьяне с сожалением вспоминали прежние порядки: "что ж за жизнь — хуже барщины". К 1900 г. уходило из деревни на заработки 3,8 млн человек, что в 4,7 раза превышало показатели 1857—1859 гг.

Изменения затронули и традиционные представления крестьянства о прибыли. Еще в середине XIX в. бытовало представление о продаже хлеба как грехе, в 1870-е гг. для массы крестьян была чужда идея денежного займа под проценты, а кредитные учреждения расценивались как благотворительные: "царь деньги всем прислал, значит, и делить надо поровну". Лишь в начале XX в. многие крестьяне осознали и приняли идею займа и процента. Началась дифференциация сельского населения, появились богатые крестьяне, не склонные считаться с общественными традициями. У 31 % крестьян появились дополнительные заработки, которыми они не собирались делиться с общиной. Если в XVIII — первой половине XIX в. крестьянин, как правило, шел на толоку, чтобы помочь, то после реформ — чтобы хорошо угоститься, оказать услугу нужному человеку или заранее договориться о будущих совместных работах.

По данным учрежденной в 1872 г. Александром II Комиссии для исследования нынешнего положения сельского хозяйства, в России после отмены крепостного права "в крестьянах

обнаружилось развитие чувства личности, независимости, индивидуализма... Это проявилось в падении нравственности и дисциплины, покушениях на помещичью собственность, неуважении к родителям, участившихся семейных разделах, росте пьянства, ослаблении уважения к церкви, в щегольстве, т. е. в стремлении следовать городской моде". Достижение успеха сопровождалось соперничеством, усложнением человеческих отношений».

*Разгляду пытанняў зямельнага ўладкавання асобных груп сельскіх жыхароў Беларусі прысвяціў сваё выступленне дацэнт кафедры гісторыі Беларусі новага і навейшага часу* ***В. С. Макарэвіч***. Больш дэталёва ён спыніўся на падрыхтоўцы і рэалізацыі чыншавай рэформы 1886 г.: «Сялянская рэформа 1861 г. ніякім чынам не закранула такую катэгорыю насельніцтва Беларусі, Літвы і Украіны, як вечныя сельскія чыншавікі. Пераважна імі было сельскае насельніцтва, якое на аснове вечнага чыншавага права з часоў ВКЛ спадчынна карысталася зямельнымі надзеламі, атрыманымі ад памешчыкаў, плоцячы ім раз і назаўсёды ўстаноўлены чынш ці адпрацоўваючы абумоўленыя дамоваю павіннасці. Такі парадак рэчаў працягваў захоўвацца і пасля падзелаў Рэчы Паспалітай аж да 50—60-х гг. XIX ст.

Колькасць чыншавікоў у сярэдзіне XIX ст. была вельмі значнай — каля 200 тыс. чалавек у Беларусі і Літве і каля 500 тыс. ва Украіне. Аналіз крыніц з XIX ст. паказвае, што чыншавікамі былі вольныя людзі, асабіста свабодныя сяляне, часам яўрэі і татары, але ў большасці дробная шляхта: бедныя дваране, зацверджаныя герольдыяй, альбо шляхта, якая яшчэ даказвала сваё паходжанне перад уладамі; шляхта, прыпісаная да аднадворцаў і грамадзян заходніх губерняў, а таксама шляхта, прыпісаная да мяшчан ці сялян альбо вольных людзей.

Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай становішча чыншавікоў у сацыяльнай структуры грамадства пачало хутка мяняцца. Ранейшыя функцыі, а гэта часта была вайсковая служба, ва ўмовах расійскай манархіі аказаліся рудыментам мінулай эпохі, і некаторыя магнаты ўжо ў пачатку XIX ст. намагаліся пазбавіць чыншавікоў іх прывілеяў, жадалі ўраўняць іх з сялянамі ў абкладанні павіннасцямі. Часткова службовая шляхта пераводзілася на чынш. Усё гэта выклікала бунты служылай і чыншавай шляхты, для ўціхамірвання якіх неаднаразова выклікаліся расійскія гарнізоны. Калі пачалі распаўсюджвацца чуткі пра падрыхтоўку сялянскай рэформы, адбыўся ўсплеск канфліктаў з-за зямлі паміж памешчыкамі і чыншавай шляхтай. Памешчыкі баяліся, што чыншавікам нароўні з сялянамі дазволяць выкупляць зямлю. Землеўласнікі пачалі зганяць чыншавікоў з іх зямлі альбо змушаць іх падпісаць новыя кантракты аб арэндзе. Апошняе было вельмі нявыгадна, бо арэндная плата была павышана. У выніку многія чыншавікі, якія пагадзіліся на новыя кантракты, не змаглі пазней даказаць свой вечначыншавы статус, бо ў выніку разбірацельстваў аказвалася, што чынш быў зменены, а значыцца, не быў вечным. Яшчэ адным штуршком да абеззямельвання чыншавікоў стала тое, што з 1860-х гг. цэны на зямлю пачалі хутка расці, а ўслед за імі і арэндная плата. Памешчыкі ў выніку капіталізацыі гаспадарчых адносін былі зацікаўлены ў атрыманні вышэйшых даходаў. Нязгодных на павышэнне чыншу проста высялялі, а на іх месца прыходзілі арандатары, часта з той жа ж абеззямеленай дробнай шляхты, якой проста не было куды падзецца. Дробны шляхціц становіцца для памешчыка звычайным наёмным працаўніком.

У абароне сваіх праў на спрэчныя землі і чыншавікі і памешчыкі пачалі масава звяртацца ў суды. Суды не ведалі, як вырашаць гэтыя справы — у расійскім заканадаўстве паняцця аб вечначыншавых адносінах не існавала. Акрамя таго, канфлікт паміж чыншавікамі і памешчыкамі быў нават спрыяльны для ўрада, паколькі нацкоўваў чыншавікоў на памешчыкаў, колішніх саюзнікаў па паўстаннях. Таму ўлады не спяшаліся з юрыдычным вырашэннем праблемы. Яны баяліся толькі, каб канфлікт не перарос у паўстанне. Між тым 1860—1880-я гг. у Беларусі і Украіне праходзілі пад знакам масавых выступленняў чыншавікоў, на ўціхамірванне якіх нярэдка выклікаліся войскі. Толькі ў 1882 г. была створана чыншавая камісія пры МУС, якая ўзялася за распрацоўку чыншавай рэформы, праведзенай у 1886 г. Рэформа была спецыяльна расцягнута ў часе, каб не дапусціць адзінамомантнага ўсплёску выступленняў

чыншавікоў. Практыка рэалізацыі рэформы аказалася больш карыснай для памешчыкаў. Тыя чыншавікі, якім удалося даказаць вечначыншавыя адносіны, а такіх аказалася ўсяго каля 15—20 %, атрымалі права выкупу надзелаў і павіннасцей у адпаведнасці з правіламі, вельмі блізкімі да правіл сялянскай рэформы 1861 г. Значная частка чыншавай шляхты была абеззямелена і мусіла ці перасяляцца ў гарады, ці шукаць наёмную працу ў вёсцы. Менавіта выхадцы з дробнай чыншавай шляхты, як асабіста вольныя людзі, часта ішлі на чыгунку, якая ў той час пачала будавацца ў Беларусі. Іншая частка падпісала арэндныя кантракты з памешчыкамі. У выніку павялічылася колькасць сельскіх арандатараў. Яшчэ адным наступствам абеззямельвання чыншавікоў і чыншавай рэформы была паскораная маргіналізацыя дробнай шляхты, якая страчвала свае маёмасныя прывілеіі на зямлю.

Не без перабольшвання, па сацыяльных наступствах для дробнай шляхты перыяд абеззямельвання чыншавікоў і рэалізацыі чыншавай рэформы можна назваць «памешчыцкім разборам шляхты». Рэформа істотна паўплывала на эканамічныя і сацыяльныя працэсы ў Беларусі. На рынак вольнанаёмнай працы была выштурхнута значная колькасць насельніцтва, адбылося збліжэнне сацыяльнай структуры насельніцтва ў Беларусі з уласнарасійскай».

*Прысутныя на пасяджэнні маладыя навукоўцы спрабавалі разгледзець некаторыя аспекты праблемы круглага стала ў сілу сваіх дакладных дысертацыйных праблем. Па-рознаму гэта атрымоўвалася, розны ўзровень аналітычнага мыслення быў прадэманстраваны, але сабраўшыеся цёпла аднесліся да выказванняў «будучыні беларускай гістарычнай навукі». Напрыклад, не без цікавасці праслухалі сістэматызаванае прадстаўленне* ***Я. В. Уласаўцом*** *ролі прадвадзіцеляў дваранства беларускіх і літоўскіх губерняў у падрыхтоўцы сялянскай рэформы 1861 г. У прыватнасці, было сказана*: «Галоўную ролю ў дыялогу расійскіх урадавых колаў з мясцовым набілітэтам адыгрывалі губернскія і павятовыя прадвадзіцелі дваранства, якія дзякуючы свайму маёмаснаму становішчу, узроўню адукацыі і маральным якасцям былі аднымі з найбольш уплывовых і паважаных асоб у краі. Так, віленскі генерал-губернатар У. Назімаў, адразу пасля сустрэчы з Аляксандрам II у Брэсце ў траўні 1856 г. склікаў у Вільню губернскіх (К. Ажэшка і А. Чапскі) і павятовых (С. Хаміньскі, Я. Любаньскі) прадвадзіцеляў дваранства, якія выявілі гатоўнасць падрыхтаваць памешчыкаў да думкі аб непазбежнасці сялянскай рэформы. 12 сакавіка 1857 г. адбылася сустрэча генерал-губернатара з віленскім, ковенскім і гродзенскім прадвадзіцелямі дваранства, на якой У. Назімаў прасіў аб стварэнні ў губернскіх гарадах Асобых камітэтаў, у склад якіх павінны былі ўвайсці павятовыя прадвадзіцелі і некаторыя найбольш спрактыкаваныя памешчыкі, пачаць абмеркаванне праектаў паляпшэння быту памешчыцкіх сялян. У Асобым камітэце Віленскай губерні 6 з 7 павятовых прадвадзіцеляў дваранства выступілі за адмену прыгоннага права пры захаванні праў памешчыкаў на зямлю. Падобны характар мела рэзалюцыя Ковенскага і Гродзенскага камітэтаў, што дало У. Назімаву падставу прадставіць 25 верасня 1857 г. міністру ўнутраных спраў вынікі абмеркавання ў выглядзе адраса. Пазней Рэдакцыйныя камісіі адхілілі праекты губернскіх камітэтаў і прызналі неабходным выпрацаваць асобае «Мясцовае палажэнне», якое, нягледзячы на пратэсты прадвадзіцеляў дваранства (А. Дамейка, Ю. Доўгірд, К. Ажэшка), было зацверджана Дзяржаўным саветам і 19 лютага 1861 г. падпісана Аляксандрам II».

*У кантэксце агульнага пазначэння пытання аб крыніцах фарміравання прамысловых прадпрымальнікаў Беларусі ў канцы XIX — пачатку XX ст. пабудаваў сваё выступленне* ***А. В. Бурачонак****, які расказаў аб тым, што* «...саслоўныя пераўтварэнні ў парэформенны перыяд паўплывалі на змяненне сацыяльнага аблічча прадпрымальніцтва ў Беларусі. Так, ва ўмовах адмены прыгоннага права пачалося паступовае прыстасаванне дваранаў беларускіх губерняў да ўмоў капіталізму. Да пачатку XX ст. дваранству належала лідзіруючая роля ў развіцці прамысловага прадпрымальніцтва. Нідзе больш у імперыі дваранства не займала такіх моцных пазіцый у прамысловасці. Акрамя гэтага, прамысловае прадпрымальніцтва займала важнае месца ў дзейнасці купцоў, мяшчан і пачэсных грамадзян. Тэмпы росту аб'ёму вытворчасці на іх прад-

прыемствах былі вышэйшымі, чым на памешчыцкіх. Паскарэнне эканамічнага развіцця ў Расіі ў парэформенны перыяд стала магчымым дзякуючы замежным падданым і іх непасрэднаму ўдзелу ў прадпрымальніцтве. Найбольш слабыя пазіцыі сярод прамысловых прадпрымальнікаў Беларусі займала сялянства. Прадстаўнікі дадзенага саслоўя толькі рабілі свае першыя крокі ў прадпрымальніцтве і арыентаваліся на традыцыйныя сферы дзейнасці, якія былі звязаны з сельскай працай. Такім чынам, саслоўі сталі паступова страчваць свае спецыфічныя прывілеі, збліжацца адно з другім у прававым становішчы і паступова трансфармавацца ў новыя катэгорыі насельніцтва. Яркім прыкладам дадзенай з'явы стала фарміраванне слоя прамысловых прадпрымальнікаў. Дадзеная група была адкрытай, што забяспечыла доступ да занятку прадпрымальніцтвам усім катэгорыям насельніцтва».

*Выкладчык кафедры гісторыі Беларусі новага і навейшага часу **Н. В. Карповіч** амаль што адзіная з прысутных закранула пытанне прававога статусу праваслаўнага прыходскага духавенства Беларусі ў перыяд рэформ 1860—1870 гг. Яна звярнула ўвагу прысутных на тое, што* «асаблівае месца ў тагачаснай сацыяльнай структуры грамадства займала праваслаўнае духавенства, для якога было характэрна супадзенне сферы занятасці і саслоўнай прыналежнасці. Пад уплывам рэформ ва ўмовах адмены саслоўных абмежаванняў адбывалася эвалюцыя прававога статусу духоўнага саслоўя, сярод якога прыхадское духавенства складала пераважную колькасць. Аб'ектыўна рэформы былі накіраваны на паляпшэнне яго юрыдычнага статусу і пашырэнне службовых праў. Скасаванне саслоўнай замкнёнасці праваслаўнага духавенства садзейнічала паляпшэнню яго адукацыйнага ўзроўню і прафесійнай падрыхтоўкі, дазволіла прымаць удзел у царкоўных органах самакіравання».

*Выкладчык кафедры гісторыі Беларусі новага і навейшага часу **В. В. Кныш** выказалася аб уплыве буржуазных рэформ на станаўленне сацыяльнай работы на тэрыторыі Беларусі. Ёю было адзначана, што* «вторая половина XIX в. — период трансформационных изменений в различных сферах жизни, которые определили направления развития социальной помощи и благотворительной деятельности. Наиболее активными участниками этой работы были частные благотворители. Усилиями белорусских филантропов организовывались и финансировались благотворительные общества и заведения, поддерживалась и развивалась медико-социальная помощь. На их средства были открыты и содержались больницы, богадельни и приюты. Частными обществами устраивались балы, вечера, театральные постановки, разыгрывались лотереи. Денежный сбор с этих мероприятий шел в пользу благотворительных обществ, богаделен, приютов и воспитательных домов. Наиболее известные белорусские благотворители второй половины XIX в. — граф К. Э. Чапский, княгиня И. И. Паскевич, баронесса Е. Р. Гровениц, князь В. М. Долгоруков, доктор медицины С. К. Свентитский».

Аспірантка кафедры гісторыі Беларусі новага і навейшага часу ***Г. С. Буціна*** акрэсліла ролю адміністрацый беларускіх губерняў у рэалізацыі сялянскай рэформы. Яна адзначыла: «Отмена крепостного права оказала существенное влияние на деятельность администраций губерний в решении вопросов социально-экономического характера. Одной из задач губернатора, его канцелярии и губернского правления являлась организация мероприятий в определенные законодательством сроки по реализации крестьянской реформы. Анализируя роль губернской администрации, был сделан вывод об организованной в целом работе чиновников, губернских учреждений, сословных органов».

*Студэнт магістратуры кафедры гісторыі Расіі **К. Вайцэховіч** не пабаяўся злучыць у сваёй прамове праблематыку «сялянскага пытання» з абставінамі станаўлення і гістарычным лёсам беларускай дзяржаўнасці:* «XIX в. — особое время в истории Восточной Европы: в регионе оформлялись те нации, которые сегодня получили государственность. Тогда восточноевропейские народы находились в «железном кольце» 4-х империй. Чтобы разорвать это кольцо, им необходимо было сформировать национальную элиту, которая, в свою очередь, должна была разбудить внутренние силы народов, повести их к национальной независимости.

В этой связи особое значение приобрел «крестьянский вопрос», так как большинство молодых восточноевропейских народов были «крестьянскими». Поэтому усилия национальной интеллигенции были обращены к крестьянам в попытках создания «своих» государств. Первый шаг состоял в личном освобождении крестьян и непременно следующем за ним усложнении социальной структуры общества. Вторым шагом стал распад «железного кольца империй». Это был тест на зрелость наций. Те, кто мог себя защитить, создавали армии, по своему составу в основном крестьянскими. Боеспособные армии сумели создать поляки, финны и народы Прибалтики (прежде всего, эстонцы). Они и смогли отстоять свою независимость. Однако прогресс в национальном и социальном развитии наметился и у белорусов, о чем свидетельствовало провозглашение БНР, попытка создать свои вооруженные силы. Недостаточную зрелость нации и неспособность создать полностью независимую державу продемонстрировало то, что крестьяне не пошли в армию. Это обрекало Беларусь быть объектом международной политики, но давало надежду на независимость в будущем.

*Аспірант кафедры гісторыі Расіі* ***А. С. Ярмоленка*** *агучыў некаторыя абставіны разгляду «ўкраінскага пытання» на старонках цэнтральных часопісаў Расійскай імперыі якраз пад уплывам грамадскага ўспрымання Вялікіх рэформ. Ім было адзначана, што* «период либерального реформирования стимулировал оживление общественной мысли и среду ее выражения — прессу. «Украинский вопрос», не являясь приоритетным, тем не менее часто оказывался в центре внимания, отчасти в силу волнообразного оживления украинского национального движения (начало 1860-х и первая половина 1870-х гг.), отчасти как составной элемент более общей проблемы взаимоотношений печати и цензуры в России.

Для «толстых» журналов 1860—1870-е гг. были временем осмысления украинской проблематики, артикуляции притязаний украинофильства и развертывания конкурирующих национальных проектов в Юго-Западном крае. Позиция «Современника» была двойственной: благосклонные в отношении превращения украинцев в нацию взгляды Н. Г. Чернышевского соседствовали на страницах журнала с противоположными выкладками Н. А. Добролюбова. «Русский вестник» (усилиями М. Каткова, Н. Ригельмана, С. Гогоцкого) прошел эволюцию от сдержанной критики усилий украинских национальных активистов до откровенных нападок с целью ускорить подавление «украинского сепаратизма» приведением в действие репрессивных механизмов, а также силой общественного мнения, призывая «истинных русских, а равно и славян, понимающих сколько-нибудь свою пользу» бороться с крамолой (*Ригельман Н*. Современное украйнофильство // Русский вестник. 1875. № 2. С. 848). Усердие в проведении курса на обрусение не гарантировало идеологу русского консервативного национализма свободы слова: в 1871 г. на десятилетие редактор «Русского вестника» был вынужден отказаться от освещения национальной проблематики (*Миллер А*. «Украинский вопрос» в политике властей и русском общественном мнении (вторая половина XIX в.). СПб. : Алетейя, 2000. С. 148). Либеральный «Вестник Европы» в разгоравшейся полемике вокруг украинофильства оказал ему значительную услугу, так как втянулся в дискуссию силами идеологов украинского движения (Н. Костомаров, М. Драгоманов, П. Кулиш).

*Напрыканцы пасяджэння не засталося без увагі выступленне аспіранта кафедры гісторыі Расіі* ***А. М. Максімчыка****, які ў гістарыяграфічным плане даследуе праблему «далучэння народаў Паўночнага Каўказа да Расіі. Яго зварот да пытання адмены прыгоннага права ў Расійскай імперыі, зразумела, меў «каўказскі акцэнт, але сугучны беларускай «спецыфіцы». Выступоўца сказаў:* «История реформ в регионе изучена поверхностно. Большая часть архивных документов еще не введена в научный оборот. Исследования базируются на описании проектов реформ.

Вследствие неравномерности социально-экономического развития народов Северного Кавказа и Закавказья условия проведения здесь крестьянской реформы были различными, однако принцип реформы был тот же, что и в Центральной России. На Северном Кавказе реформа началась с освобождения рабов и крепостных. Для подготовки отмены крепостного

права у горских народов Кавказа в 1866 г. был создан Особый комитет под председательством князя Д. И. Святополка-Мирского. В 1866—1868 гг. рабство в Дагестане было полностью ликвидировано, однако это не затронуло крестьян-рабов, которые оставались в зависимости от беков до 1913 г. Только по закону от 7 июня 1913 г. все зависимые крестьяне освобождались от своих повинностей в пользу феодалов. Попытки отмены рабства в Кабарде привели к волнениям. В 1866—1868 гг. крепостное право было ликвидировано в Терской, Кубанской и Дагестанской областях. В Чечне и Ингушетии крепостного права практически не было. В Ставропольском крае, где крепостные составляли всего 2 % крестьянского населения, реформа проходила по образцу европейской части России. Все земли горских племен были тщательно размежеваны и распределены между горцами и русскими переселенцами и колонистами.

Отмена крепостного права в Грузии растянулась на 7 лет (1864—1871). 13 октября 1864 г. был издан указ и в начале ноября опубликован закон об отмене крепостного права в Тифлисской губернии. Ровно через год «Местное положение» для Тифлисской губернии с некоторыми отступлениями было распространено на Западную Грузию. В Абхазии крепостное право было ликвидировано в 1870 г., в Сванетии — в 1871 г. Отмене крепостного права в Абхазии, как и в Менгрелии (1857), предшествовало крупное крестьянское восстание, возникшее в 1866 г. в связи с подготовкой реформы. Поводом к восстанию стало известие о том, что крестьяне вынуждены будут выкупать земли у помещиков, которые они считали своей собственностью. Временнообязанные отношения в Закавказье были отменены лишь в 1912—1913 гг.

В отличие от Грузии, в Ганджинском, Карабахском, Ширванском, Шекинском, Бакинском, Ленкоранском, Эриванском и Нахичеванском ханствах, где земля принадлежала мусульманам, необходимо было лишь урегулировать повинности крестьян, исключив из них аспект личной зависимости. 14 мая 1870 г. было утверждено «Положение», освобождавшее крестьян. Они получили несколько больше земли, нежели в Грузии, однако оросительная система оставалась в руках землевладельцев. Особенно тяжелым было положение монастырских крестьян, принадлежавших Эчмиадзинскому монастырю в Армении, на которых «Положение» фактически не было распространено. Последствием отмены крепостного права на Кавказе стало стирание сословных перегородок. Произошла деформация местной военной элиты, которая окончательно слилась с военно-бюрократическим аппаратом России».

*Дакладна і па-навуковаму грунтоўна выступіў старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі **В. У. Упучак**, які вызначыў наступствы рэформ праз асаблівасці прасцірання «доўгага шляху “беларускай ідэі” да беларусаў». Таму і спаслаўся на сучасны стан, такой паранейшаму гаротнай, «беларускай ідэі»*: «Перад беларускімі навукоўцамі стаіць праблема вытокаў сучаснай беларускай ідэі. Беларускія народнікі 1880-х гг. тут займаюць адмысловае месца. Пасля скасавання прыгону ў асяроддзі расійскай інтэлігенцыі развіваецца культ “простага народу”. Але ў тэрмін “народнік” у розныя часы ўкладваўся розны сэнс. На землях былога ВКЛ “народам” называлася шляхта, таму тэрмін у нас меў сваё адценне. Так, калі гаворка ішла пра “просты народ”, то К. Каліноўскі ўжываў паняцце “мужыцкі народзе”».

Кім жа былі пецярбургскія беларускія народнікі і да каго яны звярталіся ў сваёй публіцыстыцы? Польскі сацыялістычны дзеяч В. Ёдка-Наркевіч лічыў, што выдаўцы Гомона былі «маладыя палякі, якія знаходзіліся ў навучальных установах Пецярбурга і падчас навучання адчулі сябе беларусамі». Былы нарадаволец, бацька слыннага паэта, А. Багдановіч, пішучы ў 1927 г. з савецкай Расіі ў Польшчу А. Луцкевічу, зазначаў: «Мы ў той час пазбягалі ўсялякіх ускладненняў на глебе нацыяналізму. Ці больш дакладна — пакідалі гэтыя пытанні ў баку, як тыя, што маюць, з нашага гледзішча, другаснае значэнне, як пытанні будучыні... Для нас, мінскіх народнікаў, з’яўленне Гомона было мімалётным эпізодам, які быў заслонены шэрагам іншых, бягучых пытанняў, з нашага пункту погляду — больш актуальнага значэння».

Значна далей у плане даследавання тэмы «народніцтва» прасунуўся С. Александровіч (*Александровіч С.* Кнігі і людзі. Зборнік літаратурна-крытычных артыкулаў. Мінск, 1976). Ён

часткова ўстанавіў персанальны склад пецярбургскага гуртка беларускіх народнікаў, назваўшы: студэнтаў Аляксандра Марчанку, Хаіма Ратнера, Урбана Крупскага, Марціна Стацкевіча, Станіслава Касцюшку-Буйніцкага, Лявонція Насовіча, Баляслава Рынкевіча, Марцэлі Эдмунда Янчэўскага і інш. (тамсама. С. 67). С. Александровіч выразна сцвярджаў, што «публіцыстычныя творы (беларускіх народнікаў), напісаныя беларусамі, якія добра ведалі жыццё, гісторыю і грамадскія патрэбы роднага краю; гэтыя творы адрасаваліся беларускаму чытачу і прызначаліся для распаўсюджвання ў першую чаргу на Беларусі» (тамсама. С. 71).

З іншага боку, усе на сёння вядомыя творы беларускіх народнікаў, напісаныя па-руску, былі звернутыя да «беларускай моладзі» і «беларускай інтэлігенцыі». Чаму так, чаму была разарвана традыцыя пісаць пра беларускія справы па-польску ці па-беларуску? Насмелімся выказаць меркаванне, што галоўнымі адрасатамі беларускіх народнікаў, а прозвішчы іх кажуць пра каталіцкае паходжанне, былі рускія. Падобна, як у 1912 г. Іван і Антон Луцкевічы пачалі выпускаць «Вечернюю газету» для рускай інтэлігенцыі краю, і Вацлаў Іваноўскі ў 1902 г. выдаў зварот «Да інтэлігенцыі» па-польску, народнікі выдавалі свае творы па-руску і казалі пра беларускую аўтаномію ў складзе будучай дэмакратычнай Расіі. Гэта быў той максімум, на ўспрыманне якога магла разлічваць беларуская сацыялістычная група ў Пецярбургу, улічваючы тое, што расійскіх рэвалюцыянераў нацыянальнае пытанне ў той час мала цікавіла».

*Абмеркаванне на пасяджэнні навуковага круглага стала праблематыкі, звязанай з асэнсаваннем пытанняў падрыхтоўкі, рэалізацыі, уплыву адмены прыгоннага права на далейшае развіццё беларускага грамадства, выявіла высокую даследчыцкую актуальнасць вызначанай тэматыкі, яе шырокі грамадска-культурны патэнцыял.* У ходзе выступленняў неаднаразова выказвалася меркаванне, што ў апошнія два дзесяцігоддзі аграрная гісторыя, багатыя традыцыі вывучэння якой склаліся ў беларускай савецкай гістарыяграфіі, недазваляльна рэдка станавілася прадметам вывучэння айчынных гісторыкаў, нават інстытуцыянальна страчаны многія ранейшыя традыцыі, у тым ліку правядзення аграрных сімпозіумаў і інш. Таму прысутныя пагадзіліся з прапановамі аб неабходнасці ў бліжэйшым часе працягнуць абмеркаванне пытанняў, звязаных з разнастайнымі аспектамі засваення беларусамі свабоды: як даранай «зверху», так і атрыманай праз змаганне.

Матэрыялы навуковага круглага стала падрыхтаваны
да друку **А. А. Яноўскім, А. Г. Каханоўскім**

## МЕЖДУНАРОДНЫЕ НАУЧНЫЕ КОНФЕРЕНЦИИ ПО ПРОБЛЕМАМ ИНТЕЛЛИГЕНТОВЕДЕНИЯ (Иваново, 2006—2011 гг.)

Вот уже 21 год подряд, традиционно, в 20-х числах октября, в Ивановском государственном университете (Россия) проводятся научно-теоретические конференции по проблемам интеллигентоведения. Они привлекают повышенное внимание со стороны историков, философов, литераторов, политологов. Благодаря инициативности и компетентности заведующего кафедрой истории и культуры ИвГУ В. С. Меметова стало возможным не только предоставление «площадки» для дискуссий по столь в прежние времена непопулярной тематике, но и создание настоящей школы интеллегентоведов, оформление НИИ интеллегентоведения ИвГУ. И сама проблематика, и обаяние личности высокоэрудированного Валерия Сергеевича позволили создать, без преувеличения, международный центр, который объединяет чуть ли не всех российских, украинских, белорусских интеллегентоведов.